*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**№№17–18 (3556–3557)**
31 студзеня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Выдавец: УП «Народная воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
***Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!***

**ТЕМА ДНЯ**

Дмитрий ГАЛКО:



## *Господин Рубинов, вы настоящую оппозицию даже не представляете...*

В субботнем эфире программы «Картина мира» с Юрием Козиятко на канале «РТР-Беларусь» председатель Совета Республики Анатолий Рубинов сделал неожиданное заявление: «Вопрос о том, чтобы у нас была системная оппозиция, — важнейший вопрос нашей политической системы».

И совсем не для того была, чтобы Запад нас понял и простил, а, поняв и простив, помог с валютой, которой мы не доверяем (обесценится со дня на день!) и другим не советуем, но очень в ней нуждаемся. Вы ни за что не поверите, но оппозиция нужна потому, что без нее «страна не может нормально развиваться». Ей, стране, только во вред наличие единственно верной точки зрения. «Какой бы она ни была хорошей или каким бы непогрешимым ни казался автор этой точки зрения», — рискованно добавляет председатель Совета Республики.

Нужны, оказывается, альтернативные предложения, нужна критика и неудобные вопросы. В общем, необходима оппозиция. И не просто необходима, она «должна быть обязательно».

Поскольку первый период существования нашей страны, который требовал, по дипломатичному выражению Рубинова, «специфических методов управления», уже в прошлом, настала пора подняться на ступеньку выше. Вырасти из коротких штанишек.

Так что же, завтра выпустят из тюрем всех политзаключенных, восстановят гражданские права и свободы, президент мужественно совершит акт самоограничения, к выборам допустят всех желающих, не будут чинить препятствий и посчитают наконец наши голоса вместо того, чтобы рисовать их борщом? Начнется новая эра в истории нашей страны, когда взаимоотношения гражданина и президента станут определяться по формуле, выведенной российскими десантниками: *«Ты такой же, как я, человек, а не бог/ Я такой же, как ты, человек, а не лох»?*

Увы, журналист не задал этих вопросов. Спросил только, откуда возьмется «нормальная» оппозиция, кто ее будет создавать. Потому что в нынешнем виде оппозиция Рубинова не устраивает: «все на площадях, штурмы и так далее, какие-то лозунги и обругивания».

Так оппозиция в ее нынешнем виде не только Рубинова не устраивает. Не думаю, что сильно преувеличу, если скажу, что она не устраивает в первую очередь большую часть демократически настроенной общественности. Не из-за того, что «все на площадях», нет там никого давно, к тому же для оппозиции как раз нормально быть на площадях. А по причине ее удручающей беспомощности.

Конечно, причиной этой беспомощности являются и определенные внутренние недостатки. Но, вообще говоря, в условиях авторитарного режима, который жестко пресекает все несанкционированные проявления социально-политической жизни, у оппозиции есть только два пути: либо действовать в формате революционного подполья, либо имитировать оппозиционную деятельность в строго отведенных рамках (эти рамки ничего, кроме имитации, не позволяют). До революционного подполья дело не дошло, не тот случай, поэтому мы наблюдаем второй вариант. Как сказал бы ослик Иа: «Жалкое зрелище... душераздирающее зрелище».

На вопрос Козиятко, откуда возьмется другая оппозиция, Рубинов отвечает: «Она должна быть в парламенте». В парламенте? Замечательно. Но в парламент-то она как попадет? Нет ответа. Или подразумевается, что она уже там, только мы о ней не знаем, от нас ее скрывают до поры до времени? Президент не так давно на это намекал: дескать, в стенах парламента за закрытыми дверями идут бурные дебаты, просто их на публику не выносят, как сор из избы. Видимо, считая коллективный разум нации недостаточно окрепшим для восприятия конфликтных точек зрения.

Эй, вы там, наверху! Хватит держать людей, оппозиционно мыслящих, за малых детей, решать, к чему они готовы, а к чему нет. Как гласил один из гениальных лозунгов, родившийся во время декабрьских протестов в Москве: «Вы нас даже не представляете!» Не надо выдумывать каких-то оригинальных теорий самозарождения оппозиции, которая устроила бы всех, в том числе и власть. Просто дайте выйти ей на свет из сумрака политического гетто, где ее долгие годы держали. Она, оппозиция, сама будет говорить — от себя и за себя.

## Легітымізацыя шулерства?

У апошнія дні інфармацыйная прастора Беларусі папоўнілася адным цікавым выказваннем "страсбургска-брусельскага сядзельца" — Аляксандра Мілінкевіча.

Ён, падобна, напярэдадні выбараў хоча не толькі "захаваць свой рэсурс", але і падаць беларускаму рэжыму сігнал пра гатоўнасць рэанімаваць свой стары тэзіс аб "канструктыўным супрацоўніцтвам з уладай". У інтэрв'ю агенцтву БелаПАН сп.Аляксандр сфармуляваў даволі абсурднае з пункту гледжання логікі сцвярджэнне: *"Паколькі ў Беларусі выбараў фактычна няма, то і байкатаваць няма чаго".* Атрымліваецца такі нейкі беларускі "анцідзюрынг". Той выбарчы фарс, супраць якога ваюе Віктар Івашкевіч, для Мілінкевіча не існуе. Няма выбараў — няма байкоту. Мне ж здаецца, што гульня з шулерамі легітымізуе шулерства як з'яву.

**Аляксандр КАЗЛОЎСКІ.**

**SOS!**

## Сяргея Каваленку кормяць прымусова

Сяргея Каваленку трымаюць у Віцебскім следчым ізалятары. Яго абвінавачваюць у парушэнні артыкула 415 Крымінальнага кодэкса (ухіленне ад адбывання пакарання). Жонка і адвакат Каваленкі атрымалі афіцыйныя адмовы на просьбу выпусціць палітвязня да суда пад заклад.

Нагадаем, што Сяргей быў пакараны так званай хатняй хіміяй за тое, што 7 студзеня мінулага года вывесіў аграмадны бел-чырвона-белы сцяг на навагодняй ёлцы ў цэнтры Віцебска. Цяпер міліцыянеры сцвярджаюць, што падчас адбыцця пакарання Каваленка дапусціў парушэнні рэжыму і таму арыштаваны.

У знак пратэсту супраць такога цкавання 19 снежня 2011 года Каваленка абвясціў галадоўку. На 31-ы дзень галадоўкі жонка палітвязня даведалася, што Сяргея пачалі карміць прымусова. Пры гэтым і жонцы, і маці Каваленкі ў спатканні было адмоўлена, а, па словах адваката, Сяргей за гэты час вельмі схуднеў і выглядае як хворы.

Згодна з апошнімі звесткамі, крымінальная справа супраць Сяргея Каваленкі ўжо перададзена ў суд Першамайскага раёна Віцебска. Дату пасяджэння яшчэ не прызначалі.

**Любоў ЛУНЁВА.**

# ВІКТОРЫЯ!



*У мінулыя выхадныя беларуская тэнісістка **Вікторыя АЗАРАНКА** ўпершыню ў гісторыі айчыннага тэніса стала пераможцай Адкрытага чэмпіянату Аўстраліі па тэнісе і першай ракеткай свету! Аб некаторых закулісных момантах прайшоўшага першынства "Народнай Волі" распавядае ўрач нацыянальнай зборнай Беларусі **Павел МАЛАШЭВІЧ**, які ў Аўстраліі дапамагаў беларускім спартсменам.* ***(Чытайце на 8-й стар.)***

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

Надзея ЕРМАКОВА:

## «Дэвальвацыя не паўторыцца»

***Старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Надзея Ермакова ўчора адказала на пытанні журналістаў.***

### Пра ўвядзенне адзінай валюты

Днямі прэм'ер-міністр Расіі Уладзімір Пуцін у чарговы раз выказаўся наконт увядзення адзінай валюты Расіі і Беларусі. Ён заявіў: *"Трэба шчыра сказаць, што ў эканамічнай галіне мы з Беларуссю не змаглі дамовіцца да тых ступеняў інтэграцыі, якіх бы нам хацелася. Напрыклад, мы не змаглі дамовіцца з нашымі беларускімі сябрамі па стварэнні агульнай валюты".*

Пры гэтым Пуцін адзначыў, што мяч *"усё роўна застаўся на іх* (беларускім. — **Аўт**.) *баку."*

Надзея Ермакова так пракаментавала выказванне Пуціна: *"Я думаю, што мяч зараз недзе пасярэдзіне. Зараз у Беларусі няма ўмоў для пераходу на адзіную валюту. Адзіная валюта — гэта вянец інтэграцыі. Я спадзяюся, што некалі да адзінай валюты мы прыйдзем".*

### Пра заробак у 500 долараў

*"Дасягнуць сярэдняга заробку ў памеры 500 долараў у гэтым годзе цалкам рэальна. Для гэтага трэба працаваць. Гэтыя грошы трэба зарабіць,* — адзначыла Надзея Ермакова. — *Тавар павінен быць выраблены і прададзены. За яго павінны быць атрыманы грошы. Выдачы крэдытаў пад зарплаты болей не будзе. Што тычыцца бюджэтнікаў, то яны свае грошы атрымаюць, для гэтага ёсць асобная частка ў бюджэце. Дэвальвацыя, якая была ў Беларусі ў мінулым годзе, не паўторыцца".*

### Пра грошы і дэнамінацыю

*"Увядзенне новай купюры наміналам у 200 тысяч рублёў адбудзецца вясной бягучага года,* — сказала кіраўнік Нацыянальнага банка. — *Праца з "Гознаком" Расіі ў гэтым накірунку ўжо вядзецца. У той жа час з абарачэння паступова будуць выводзіцца купюры наміналам у 10 і 20 рублёў. Іх проста не будуць друкаваць. Чакаецца, што з часам кошты на тавары і паслугі будуць акруглены. Але для гэтага патрэбна рашэнне Міністэрства эканомікі. Для рэалізацыі гэтага рашэння можа спатрэбіцца год-два.*

*Не плануецца ў гэтым годзе і дэнамінацыі беларускай валюты. Да гэтага пытання мы вернемся пазней".*

### Пра продаж банкаў

*"Мы сапраўды плануем выкупіць банк "Москва-Минск" (у расійскай групы ВТБ) і далучыць яго да "Белінвестбанка", каб зрабіць яшчэ адзін сур'ёзны дзяржбанк,* — сказала Надзея Ермакова. — *У першым паўгоддзі гэтая здзелка можа і не адбыцца".*

Акрамя таго, журналісты даведаліся, што дзяржава мае намер выставіць на продаж пакет акцый "Белінвестбанка" пасля таго, як будзе праведзена яго незалежная экспертыза. Аднак, па словах старшыні Нацбанка, "у гэтым годзе "Белінвестбанк" ніхто не купіць", але *"ёсць пакупнікі, якіх бы мы хацелі бачыць на нашым рынку".*

### Пра інфляцыю і стаўку рэфінансавання

*"У студзені інфляцыя запаволілася,* — сцвярджае галоўны банкір краіны. — *Таму, відавочна, з лютага стаўка рэфінансавання па банкаўскіх укладах будзе зніжацца".*

Адказваючы на пытанне, як Нацбанк будзе выходзіць з сітуацыі, калі з-за зніжэння стаўкі людзі пачнуць забіраць з банкаў грошы, Ермакова адказала: *"Плаўна".*



### *Пра перамовы з Міжнародным валютным фондам*

Беларусь зноў мае намер папрасіць грошай у Міжнароднага валютнага фонду для расплаты за пазыкі, якія наша краіна мае перад МВФ. Па словах старшыні праўлення Нацбанка, зараз Беларусь вінна МВФ 3,8 мільярда долараў.

*"Мы не спынялі перамоў з МВФ наконт новай крэдытнай праграмы,* — сказала Надзея Ермакова. — *У фондзе ёсць наша хадайніцтва на працяг праграмы. У той жа час мы прапануем рэфінансаваць тую запазычанасць, якая ў нас ёсць сёння перад МВФ".*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**НУ І НУ!**

## Сам на сябе лаяўся?

Суд Цэнтральнага раёна Мінска ў панядзелак арыштаваў кіраўніка праваабарончага цэнтра "Прававая дапамога насельніцтву" (зарэгістраваны ва Украіне) Алега Волчака на чацвёра сутак. Затрымалі праваабаронцу яшчэ 27 студзеня недалёка ад паштовага аддзялення на бульвары Шаўчэнкі і да суда амаль трое сутак трымалі ў спецпрыёмніку на вуліцы Акрэсціна.

На судзе Алег Волчак патлумачыў, што ў пятніцу ён пайшоў на пошту, каб даслаць газеты ў Астравец. Да яго падышлі супрацоўнікі міліцыі, схапілі і адвезлі ў пастарунак. Там на праваабаронцу склалі адміністрацыйны пратакол, абвінавацiўшы Волчака ў дробным хуліганстве. На судзе міліцыянеры, якія (гэта ўжо стала традыцыяй) выступалі ў якасці сведак, цвердзілі, што праваабаронца размахваў рукамі і ўжываў нецэнзурную лаянку. Але супраць каго была скіравана грубасць Воўчака? Ці мог чалавек папросту размахваць рукамі і лаяцца, ні да каго не звяртаючыся? Гэтыя пытанні засталіся без адказу. Тым не менш, нягледзячы на супярэчлівыя паказанні міліцыянераў, суддзя Якунчыхін пагадзіўся з абвінавачаннем і арыштаваў праваабаронцу на чацвёра сутак.

Шчыра кажучы, ніхто з прысутных асабліва не здзівіўся. Усе ўжо прызвычаіліся, што людзей заўсёды караюць, калі ў якасці сведкаў абвінавачання выступаюць міліцыянеры. Пытанне толькі ў тым -- каго і на колькі.

Сам Алег Волчак лічыць, што сапраўднай прычынай яго арышту сталі выказванні наконт падзей, звязаных з выбухам у мінскім метро. На яго думку, такім чынам яму далі зразумець, што трэба трымаць свае меркаванні наконт таго, хто на самай справе стаіць за тэрактам, пры сабе. Акрамя таго, арыштам была сарвана важная паездка Алега Волчака за мяжу.

**Любоў ЛУНЁВА.**

Пётр САДОЎСКІ

## Упёртая...

### Некалькі слоў пра "бойкот" і пра "спасибо"

На старонках "Народнай Волі" ідзе дыскусія пра тое, што нам рабіць на будучых "парламенцкіх выбарах": ісці да урнаў, актыўна байкатаваць гэты фарс, агітуючы супраць улады, ці ісці на плошчу? Свае слова сказала пра гэта і Вольга Абрамава, былая дэпутатка двух (ці трох?) скліканняў цяперашняга заканадаўчага органа.

Яе тэкст з назвай "За бойкот власть скажет спасибо" — адказ удзельніку дыскусіі, чытачу "Народнай Волі" Мікалаю Віцікаву. Апошні ў сваім допісе «Развейте сомненения...» колка-іранічна пытаецца ў былой дэпутаткі ("бывшей законописательницы"), што нам рабіць на будучых выбарах: ісці "в библиотеки для изучения в том числе и ее законодательных упражнений или на "Плошчу" под дубинки ОМОНа".

Каментуючы развагі сп.Абрамавай, я не абражаю яе, называючы "ўпёртай". Гэта яе самахарактарыстыка. Гэтым эпітэтам яна лаканічна "развейвае сумнеў" дасціпнага, але, на яе погляд, недастаткова інфармаванага чытача, які не ведае пра ахвярныя высілкі дэпутаткі Абрамавай у справе стварэння дэмакратычных законаў. *"Я была настолько упертым депутатом, что некоторым министрам было проще дать мне требуемое* (інфармацыю для ўнясення важных паправак у законы. — **П.С**.)*, чем объяснить, почему это невозможно... Кое-что удавалось сделать. Просто стоило это громадных усилий, колоссальных трудозатрат и потери нервных клеток и здоровья...»*

Тэму ахвярнай і абложнай працы беларускіх дэпутатаў сп.Абрамава ўзнімае не першы раз. Колькі гадоў таму на старонках "Народнай Волі" яна ўжо скардзілася, што двух з паловай мільёнаў пенсіі ледзь-ледзь хапае, каб паправіць здароўе, зруйнаванае "на дзяржаўнай службе". Я тады таксама адгукнуўся на праблему як былы дэпутат і амбасадар. Цяпер бачу, сп.Вольга, мяркуючы па здымку ў "Народнай Волі", выглядае няблага. І дзякуй Богу. У яе пенсія, я думаю, пабольшала...

Аднак што гэта я — усё пра пенсіі ды здароўе. Вернемся да байкоту і "Плошчы". Як бачна з назвы публікацыі, сп.Абрамава супраць байкоту. Наконт "Плошчы" — не зусім зразумела. З аднаго боку, палова артыкула з падзагалоўкам "Право на Площадь как право на выбор" сведчыць пра тое, што тэарэтычна, як цяперашні прафесійны палітолаг (у мінулым сп. Вольга — выкладчык савецкага грамадазнаўства), яна пакідае кожнаму права выбару. І да самой палітычнай метафары "Плошча" ставіцца станоўча, бо піша гэтае слова з вялікай літары. Гэта, дарэчы, адпавядае і афіцыйнаму беларускаму правапісу, які раіць пісаць "донкіхоты" з малой літары, а "Паўлікі Марозавы" — з вялікай.

Аднак, назваўшы ўзгаданую частку свайго артыкула "Право на Площадь..." і як бы фармулюючы свой адказ-параду чытачу, які ставіць пытанне рубам (ісці на плошчу ці ў бібліятэку), аўтарка прысвяціла "Плошчы" ўсяго два няўцямныя сказы. Прачытайце (дакладна захоўваю ўсё аўтарскае): *"Наконец о Площади. Протестующий люд вытолкнут на Площадь фактом лишения его обманным путем желанных представителей во власти, на выборных должностях, лишения самого права выбора. Вместе с узурпацией власти легитимизируется и право борьбы против нее, включая уличные действия».* Кропка.

Для мяне дык гэты пасаж вельмі двухсэнсоўны. Мы, відаць, па-рознаму разумеем ужыванне іншаземнага слова "узурпацыя". Узурпацыя — гэта незаконны захоп улады. Тут абавязкова патрабуецца сэнсавы дзейнік. Кім? Хто ўзурпіраваў уладу? Напрыклад, фальсіфікуючы выбары, прэзідэнцкая адміністрацыя ўзурпіруе ўладу. Але ж і народ можа рабіць спробу "незаконна захапіць уладу", выйшаўшы на плошчу. Па версіі ўлад, за гэта сядзяць у турме Андрэй Саннікаў і Мікола Статкевіч як "арганізатары путчу", спробы захапіць уладу незаконным шляхам. Прачытайце яшчэ раз апошні сказ Вольгі Абрамавай. *"Вместе с узурпацией власти* (або, што юрыдычна раўнацэнна, "пры спробе ўзурпацыі яе". — **П.С**.) *легитимизируется и право борьбы против нее, включая уличные действия».* «Против нее» тут чытаецца як "супраць узурпацыі ўлады", як незаконнага акта. Значыць, дзяржаўныя карныя органы маюць поўнае права на «уличные действия» супраць людзей на плошчы... Не магу дапусціць, што кандыдат паліталогіі не валодае сваёй роднай расійскай мовай.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

**АСОБА**

## Алеся Бяляцкага вылучаюць на Нобелеўскую прэмію міру

Зняволенне беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага выклікала сапраўдную хвалю салідарнасці ў розных краінах свету.

Лаўрэат Нобелеўскай прэміі 2003 года іранскі адвакат Шырын Эбудзі напрыканцы мінулага тыдня паведаміла, што дасылае свой намінацыйны ліст у Осла экспрэс-поштай. Намінант -- беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі.

У пятніцу прайшла прэзентацыя афіцыйнай заявы ў Нобелеўскі камітэт ад дэпутатаў польскага Сейма. Прычым подпісы пад заявай паставілі не толькі дэпутаты польскага парламента, але і яшчэ 27 краін — сяброў Савета Еўропы. Заяўку падтрымаў і яшчэ адзін нобелеўскі лаўрэат — экс-прэзідэнт Польшчы Лех Валенса. Намінант той жа — беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі.

Алесь Бяляцкі і закрыты беларускімі ўладамі праваабарончы цэнтр "Вясна" забяспечвалі прававую і грашовую дапамогу тым, хто стаў ахвярай беларускай праваахоўнай сістэмы. Пасля закрыцця арганізацыі ў Беларусі разліковыя рахункі, на якіх збіраліся грошы на гэтыя мэты, былі адкрыты ў Літве і Польшчы. Вось за няўплату падаткаў з гэтых сум Бяляцкага і пасадзілі. Па ўсім свеце такая расправа выклікала не толькі хвалю абурэння, але, як мы бачым, і хвалю салідарнасці.

Нагадаем, што Бяляцкі можа стаць першым грамадзянінам Беларусі, які атрымае сусветна прызнаную ўзнагароду.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**



**ДАСЬЕ**

**Алесь Бяляцкі заслужыў вядомасць і павагу ў 1980-я гады як адзін з пачынальнікаў руху за незалежнасць Беларусі. На пачатку 1990-х ён быў абраны дэпутатам Мінскага гарсавета, але ў канцы 1990-х адышоў ад палітыкі і стаў займацца дапамогай пацярпелым. Праваабаронцы-"вясноўцы" прыходзілі з дапамогай да ўсіх несправядліва асуджаных, незалежна ад іх палітычных поглядаў.**

ДЫСКУСІЯ

# Упёртая...

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Рэдакцыя «Народнай Волі» можа быць спакойнай. Ніхто не будзе выносіць ёй папярэджанні за публіцыстычную "легітымізацыю" спробы незаконнага захопу ўлады апазіцыяй. І Вольга Абрамава можа спакойна балатавацца ў чарговы раз у Палату прадстаўнікоў. Ніякая лінгвістычная экспертыза не знойдзе ў ейным дасье кампрамату, каб не зарэгістраваць.

Як колішні малодшы лейтэнант адміністрацыйнай службы, перакладчык і "инструктор по работе с населением в тылу противника" (так расшыфроўвалася мая ўліковая вайсковая спецыяльнасць з чатырма сакрэтнымі нулямі) з спецыялізацыяй "Аналіз тэкставых матэрыялаў", я "ў першым прыбліжэнні" вылічыў, што Вольга Абрамава ў святле маючай адбыцца лібералізацыі палітычнай сістэмы Рэспублікі Беларусь мае сур'ёзны намер і добрыя шанцы зноў заняць дэпутацкае крэсла. Доказы? Калі ласка. Першае — рашуча даказвае памылковасць байкоту выбараў. Другое — дае вычарпальную інфармацыю пра сваё заканадаўчае змаганне ў парламенце за інтарэсы "адрасных груп" — фермераў, прадпрымальнікаў і шараговых грамадзян з іх жэсаўскімі праблемамі, чым заваёўвае сімпатыі электарату.

І, нарэшце, трэцяе. Мне здаецца, самае цікавае. Так бы мовіць, з "25-м кадрам". Я стаўлю сябе на месца таго аргуса, які ўжо фарміруе спісы магчымых дэпутатаў, што будуць прымаць законы і зацвярджаць "часовыя" ўказы Лукашэнкі па лібералізацыі. Патрэбны інтэлігентныя лібералы, якія будуць "канструктыўна" супрацоўнічаць з Адміністрацыяй прэзідэнта. Напрыклад, той жа Аляксандр Мілінкевіч ці Уладзімір Мацкевіч. Разгарніце 4-ю старонку "Народнай Волі" за 24 студзеня з рубрыкай "Пошта". Сфакусуйцеся на шасці калонках з Абрамавай. Тут ёсць выдзеленыя тлустым шрыфтам два прозвішчы — **«Аркадий Вольский»** і **«Наталья Петкевич».** Імя Вольскага, якога сп.Вольга называе "сваім першым настаўнікам у палітыцы", сустракаем у другім абзацы тэксту. Адразу — для Адміністрацыі — станоўчыя асацыяцыі, рэспект! Гэта — не беларусы Артур ці Лявон Вольскі. Гэта палітычны расійскі "цяжкавагавік" фармату Чарнамырдзіна ці Прымакова, прыхільнік цеснай інтэграцыі з Беларуссю. У такога настаўніка не можа быць дрэнных вучаніц! А курс мы цяпер трымаем які? Правільна: на глыбокую інтэграцыю. Як бачыце, усе бемолі і бекары расстаўлены.

Другой, выдзеленай тлустым шрыфтам, ідзе Наталля Пяткевіч, жанчына ва ўсіх адносінах прыемная, якая працавала ў Адміністрацыі падчас дэпутацтва Вольгі Абрамавай. Сп.Абрамава стварае і вакол Пяткевіч вельмі станоўчую аўру. Расказваючы пра свае скіфскія хітрыкі (не афішавала, што лабіруе той ці іншы праект закона), яна разам з тым расказвае, што *"в третьем созыве... предложила принципиально новый закон с нуля «О защите прав потребителей жилищно-коммунальных услуг». И руководила рабочей группой по его подготовке. Но если бы* ***Наталья Петкевич*** *не включила его в план законопроектной деятельности, закона бы не было..."* Няважна, што там напісана далей. Як бачыце, з Адміністрацыяй трэба і можна "канструктыўна" працаваць. Вось — псіхалагічныя "памежныя сігналы знакавай семантыкі", што ствараюць імідж магчымага "канструктыўнага" кандыдата ў дэпутаты — Аркадзь Вольскі, Наталля Пяткевіч...

Я, як былы перакладчык-тэкставік, спачатку падумаў: ці не чую я тут, як "кашляюць блохі"? Але мой сусед, бухгалтар прыватнага прадпрыемства, якому я кожны раз перадаю "Народную Волю" пасля прачытання, так зрэагаваў на артыкул сп.Абрамавай: "Мáе больш за тры мільёны пенсіі ды яшчэ хоча ў дэпутатах зарабляць... Канешне, яна будзе супраць байкоту..."

За што ўлада, дадам ад сябе, безумоўна, скажа ёй "спасибо".

ЦЫНІЗМ

# СВІНСТВА,
## альбо Як абкрадаюць дзяцей-сірот

***Злачынства, што нядаўна было выяўлена ў невялікіх Бялынічах, шакіруе сваім цынізмам. Супрацоўніца мясцовага аддзялення "Белаграпрамбанка" скрала грошы з банкаўскага рахунку кліента. Прычым абрабаваным кліентам аказалася выхаванка Бялыніцкай дзяржаўнай дапаможнай школы-інтэрната для дзяцей-сірот, якія засталіся без дагляду бацькоў…***

Згодна з дзеючым заканадаўствам, у кожнага беларускага сіраты маецца ўласны банкаўскі рахунак, на які штомесяц паступае дзяржаўная дапамога. Гэтымі грашыма выхаванцы школ-інтэрнатаў карыстаюцца па ўласным жаданні. Мала хто з іх грошы здымае, знаходзячыся ў сценах устаноў. У асноўным назапашваюць, бо пасля дасягнення сіратой паўналецця гэтыя грошы робяцца ледзь не адзіным фінансавым падмуркам для старту ў няпростае дарослае жыццё.

Вось так і былая выхаванка Бялыніцкай дапаможнай школы-інтэрната Зінаіда Бандарэнка вырашыла скарыстацца сваёй законнай фінансавай дапамогай і звярнулася па грошы ў бялыніцкае аддзяленне "Белаграпрамбанка". Але адтуль яе "адфутбалілі", патлумачыўшы, што ніякіх грошай на яе рахунку няма. Дзяўчыне настойліва тлумачылі, што свае грошы яна даўно зняла.

— *Зінаіда Бандарэнка выпусцілася ад нас два гады таму*, — расказаў у размове з карэспандэнтам "Народнай Волі" дырэктар Бялыніцкай дзяржаўнай дапаможнай школы-інтэрната для дзяцей-сірот Мікалай Дзерыпоўскі. — *Па грошы яна звярнулася толькі мінулым летам. Наколькі я памятаю, размова ішла аб суме больш як 10 мільёнаў рублёў. Але ў банку іх не апынулася… Сталі разбірацца…*

*Ведаеце, у нас існуе такая практыка: здымаць грошы з уласнага рахунку выхаванец школы інтэрната ходзіць разам з педагогамі. Таму гісторыя са знікненнем сродкаў Зінаіды Бандарэнка адразу выглядала падазронай.*

Так і выявіўся крадзеж. Расследаваннем крымінальнай справы заняліся праваахоўныя органы. А як капнулі, дык паўсплывалі і іншыя эпізоды.

Згодна з неафіцыйнай інфармацыяй, касірка банка пачала здымаць грошы з разліковых рахункаў дзяцей-сірот яшчэ ў снежні 2010 года. Зараз следства правярае інфармацыю, згодна з якой касірка абкрадала і іншых дзяцей-сірот. Супраць яе ўзбуджана крымінальная справа па ч.3 арт.211 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (прысваенне грашовых сродкаў у буйных памерах).

Больш падрабязную інфармацыю мы разлічвалі атрымаць у галоўным упраўленні эканамічных злачынстваў крымінальнай міліцыі МУС Беларусі. Але там падрабязнасцяў пакуль не разгалошваюць.

"Ідзе праверка, — адказалі "Народнай Волі". — Пакуль мы не можам назваць прозвішча падазронай, прынамсі, да той пары, пакуль справа не будзе перададзена ў суд. Дакладна пакуль устаноўлена, што з рахунку адной выхаванкі Бялыніцкага інтэрната было знята 11 мільёнаў рублёў. Ці быў гэта адзіны выпадак — высвятляецца. Што тычыцца выкрытага ўжо злачынства, то яно стала магчымым з-за таго, што падазроная мела неабмежаваны доступ да рахункаў фізічных асоб. Грошы з рахунку сіраты былі зняты ў некалькі этапаў, прычым аперацыі з пункту гледжання банкаўскай справы былі праведзены бездакорна — паўсюль стаялі патрэбныя подпісы, выглядала на тое, што пацярпелая сама зняла грошы. Аднак пры расследаванні высветлілася, што ў дні абнаяўлення грошай пацярпелая знаходзілася ў інтэрнаце…"

"У выніку кіраўніцтва "Белаграпрамбанка" вярнула грошы Зінаідзе Бандарэнка, — гаворыць Мікалай Дзерыпоўскі. — Не ведаю, ці быў гэта адзіны выпадак крадзяжу, але разбіральніцтва зараз працягваецца. Я праходжу па справе як сведка…"

У самім "Белаграпрамбанку" атрымаць каментарый па справе не атрымалася. У бялыніцкім аддзяленні банка, дзе і працавала падазроная, адказваць на пытанні журналістаў адмаўляюцца. Таму пакуль можна толькі здагадвацца, як здарылася, што кіраўніцтва банка гэтае махлярства дапусціла і доўгі час не жадала нават выслухаць пакрыўджаную дзяўчыну. Гэта тым больш незразумела, што сродкі на разліковых рахунках неабароненых асоб заўсёды павінны знаходзіцца пад пільным кантролем…

Магчыма, адказы на гэтыя пытанні ўсплывуць падчас судовага разбіральніцтва. Таму "Народная Воля" абавязкова вернецца да гэтай тэмы.

**Кастусь ЛІПСКІ.**

ПАД ГРАДУСАМ

## *Мароз збірае свае ахвяры*

***Кожны дзень абмаражэнні атрымліваюць адзін-два чалавекі.***

Страшны лік адкрыла сталіца — у Мінску да смерці замерз чалавек. Няшчаснага знайшлі ў самым цэнтры горада — ён ляжаў нерухомы ля дома №13 па праспекце Незалежнасці. Калі прыехала "хуткая", мужчына, якому на від было 35—40 гадоў, быў яшчэ жывы, але медыкі не паспелі яго выратаваць.

Урачы прызнаюцца, што з пачатку халадоў кожны дзень ім прыходзіцца дапамагаць **аднаму-двум чалавекам з абмаражэннямі**. Толькі за мінулыя выхадныя да дактароў звярнуліся 11 чалавек, 8 з якіх прыйшлося пакінуць у стацыянары.

Насуперак распаўсюджаным чуткам, нагодай для пашкоджанняў ад холаду не заўжды з'яўляецца злоўжыванне алкаголем. Вельмі ўважлівымі пры сённяшніх "мінусах" трэба быць людзям, хворым на сасудзістыя захворванні. Цукровы дыябет, варыкознае пашырэнне вен, атэрасклероз сасудаў і іншыя захворванні павышаюць рызыку абмаражэнняў.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

АБЗАЦАМ

## *Еўрапарламентарыі патрабуюць…*

З патрабаваннем памілаваць асуджаных за тэракт у мінскім метро Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва да Аляксандра Лукашэнкі звярнуліся дэпутаты Еўрапейскага парламента Лайма Андрыкейне ад Літвы і Эдуард Кукан, былы міністр замежных спраў Славакіі. Таксама яны патрабуюць увесці ў Беларусі мараторый на смяротнае пакаранне. На думку еўрапарламентарыяў, суд не даказаў віну Канавалава і Кавалёва.

## *Бедная Кармяншчына*

Згодна з данымі статыстыкі, самая нізкая намінальная налічаная сярэдняя зарплата — у жыхароў Кармянскага раёна. Так было і год таму. Але калі па выніках студзеня—лістапада 2010 года доларавы эквівалент сярэдняй зарплаты ў раёне складаў каля 240 долараў, то ў канцы мінулага года — усяго 140 долараў.

## *Лідары па росце цэн*

Беларусь ужо некалькі месяцаў застаецца лідарам сярод шэрагу краін СНД і Еўропы па росце спажывецкіх цэн. Так, рост спажывецкіх цэн у Беларусі ў снежні мінулага года адносна лістапада склаў 2,3 працэнта. У той час як у Балгарыі, Іспаніі, Нарвегіі, Эстоніі, Славакіі цэны ўзраслі на 0,1%, у Венгрыі, Украіне — на 0,2%, у Казахстане — на 0,3%, Польшчы, Расіі і Чэхіі — на 0,4%, Турцыі — 0,6%, Германіі — на 0,7%. Цэны знізіліся ў Ірландыі — на 0,3% і Літве — на 0,2%. Не змяніліся цэны ў Латвіі і Фінляндыі.

## *У Казахстана новы пасол*

Ергалі Булегенаў указам прэзідэнта Казахстана Нурсултана Назарбаева прызначаны Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь. Раней пасаду пасла Казахстана ў Беларусі і па сумяшчальніцтве пасаду пастаяннага прадстаўніка пры статутных органах СНД займаў Анатоль Смірноў.

## *Беларускі сцяг падняты ў Стамбуле*

Генеральнае консульства Беларусі пачало працу ў Стамбуле. Ужо вядзецца прыём грамадзян па консульскіх пытаннях, арганізацыйна і тэхнічна замежная ўстанова гатова пачаць выдачу беларускіх віз. Прыём дакументаў на афармленне віз ад турыстычных кампаній Турцыі, размешчаных у консульскай акрузе Генконсульства, будзе ажыццяўляцца з 1 лютага бягучага года.

ЧУЛІ?

## *За дзень ажаніцца*

Гэта стане магчыма ў Беларусі. Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў прынялі змены ў Кодэкс аб шлюбе і сям'і. Згодна з дакументам, мінімальны тэрмін рэгістрацыі шлюбу скарачаецца з 15 дзён пасля падачы заявы да трох. Але ў асобных выпадках і гэты тэрмін можа быць скарочаны, а шлюб зарэгістраваны дзень у дзень.

Змены закона тычацца і месца рэгістрацыі шлюбу. Зараз маладых распісваюць толькі па месцы жыхарства мужа ці жонкі (або іх бацькоў). Па новай рэдакцыі можна будзе заключыць шлюб у любым органе загс. Таксама дазволяць праводзіць рэгістрацыю шлюбу па-за межамі памяшкання загса (напрыклад, каля помнікаў архітэктуры, на прыродзе і г.д.).

КРЫМІНАЛ

## *Згоншчыкі пайшлі на рэкорд*

Уначы 30 студзеня з завулка Бранявога ў цэнтры Мінска невядомыя скралі аўтамабіль «Таёта Лэнд Крузер» коштам 105.000 долараў.

Як паведамілі ў ГУУС Мінгарвыканкама, вярнуўшыся дадому, гаспадар прыпаркаваў машыну ў двары перад вокнамі сваёй кватэры. А ў 6.15 раніцы яго жонка выйшла выгуляць сабаку і не знайшла аўто на звыклым месцы. Пошук у двары не прынёс вынікаў, і пацярпелы звярнуўся ў міліцыю. Пры гэтым супрацоўнікам міліцыі гаспадар дарагога аўто прызнаўся, што не чуў гуку сігналізацыі і не бачыў падазроных людзей каля свайго аўтамабіля.

Зараз вядзецца пошук машыны.

Дарэчы, раней у Мінску вельмі дарагія аўто не выкрадалі, бо гэтыя машыны занадта прыкметныя.

ЗДАРЭННЕ

## *Зваліўся...*

У мінулыя выхадныя ў Жодзіне прарвала цеплатрасу, і для таго, каб ліквідаваць праблему, вырылі катлаван, які запоўніўся гарачай вадой. Катлаван быў агароджаны і пазначаны належным чынам, тым не менш васьмікласнік, які праходзіў міма, паслізнуўся і зваліўся ў кіпень. З апёкамі ног (20% паверхні цела) яго даставілі ў бальніцу.

АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ

# Адчапіцеся!

Трапныя характарыстыкі Расіі (безумоўна, вобразныя і ў першую чаргу скіраваныя яе кіраўніцтву) давалі многія вядомыя людзі як у самой Расіі, так і за мяжой. Называлі яе «турмой народаў», «імперыяй зла», «жандарам Еўропы». Узгадаем Міхаіла Лермантава:

*Прощай, немытая Россия,*
*Страна рабов, страна господ,*
*И вы, мундиры голубые,*
*И ты, им преданный народ.*

Маркс і Энгельс гаварылі пра Расію такое, што нават адзін з самых стойкіх барацьбітоў з самадзяржаўем М.Бакунін не вытрываў і выклікаў Маркса на дуэль, але той спужаўся і біцца не стаў. У.Ленін лічыў, што Расія была адным з трох разбойнікаў, якія падзялілі, акупавалі Рэч Паспалітую ў 1795 годзе, а паколькі яна дужэйшая за Аўстра-Венгрыю і Прусію, то ёй дастаўся найбольшы кавалак, у тым ліку Беларусь у цяперашніх межах.

Як ні прыкра, але амаль уся гісторыя Расіі — гэта захопніцкія войны, пакарэнне суседзяў. Каўказ, Сярэдняя Азія, Сібір, Паволжа, Поўнач... Усё забіралася з дапамогай ваеннай сілы. А дзе сіла, там... Не памятаю, хто сказаў: «Дзе Расія — там кроў». Гэта пераканаўча пацвярджаюць яе шматвяковыя войны з Беларуссю, дакладней — з Вялікім Княствам Літоўскім. Рабаўніцтва ліцвінаў (як тады беларусаў звалі) жахлівае: разбурэнні цэлых гарадоў, змяншэнне напалову насельніцтва краіны, масавыя палоны, забойствы, знішчэнне культуры, эканомікі, гісторыі...

Не змянілася стаўленне да нашай краіны і пасля бальшавіцкага перавароту ў 1917 годзе. Беларускі народ зведаў не меншую эксплуатацыю і здзек, чым пры царызме. Вялося таталітарнае знішчэнне беларускага духу на беларускай зямлі.

Справа не толькі ў ваеннай моцы Расіі, прывязанасці Беларусі да яе нафты і газу. Найбольшая пагроза сыходзіць ад менталітэту расійскай эліты. Гэты менталітэт прасякнуты вялікадзяржаўнасцю, імперскасцю, нахабным шавінізмам. Ад Крамля ён няспынна льецца на Грузію, Украіну, Эстонію, Латвію, Літву, Польшчу... Але больш за ўсё дастаецца ад яго Беларусі.

У тыя вякі, калі Беларусь стагнала пад палітычным, нацыянальным, эканамічным ды іншымі прыгнётамі, у царскай «турме народаў», у савецкай «імперыі зла», у Расіі, аднак, знаходзіліся светлыя розумы, якія спачувалі нашаму народу, знаходзілі спосабы і дапамагчы яму, і падтрымаць словам.

Згадаем, як па-чалавечы паставіўся да беларусаў М.Някрасаў. У вершы «Железная дорога» ён даў уражальны партрэт беларуса:

*Видишь, стоит,*
*изможден лихорадкою,*
*Высокорослый больной белорус:*
*Губы бескровные, веки упавшие,*
*Язвы на тощих руках...*
*Не разогнул*
*свою спину горбатую*
*Он и теперь еще...*

Прыхільна ставіўся да нашага народа М.Дабралюбаў. Вялікі дэмакрат, на смерць якога Някрасаў сказаў «Какой светильник разума угас, какое сердце биться перестало», прарочыў, што беларусы яшчэ скажуць сваё слова. А.Герцэн і М.Агароў у сваім набатным «Колоколе» давалі месца матэрыялам з Беларусі. А які інтарэс выказвалі да нашай краіны, яе народа прагрэсіўныя расійскія вучоныя, этнографы, гісторыкі, краязнаўцы... Адным словам, ёсць што згадаць добрага ў стаўленні расійскай інтэлігенцыі, лепшых розумаў грамадства да Беларусі. Яны бачылі ў беларусах менавіта народ, спадзяваліся на яго лепшую будучыню.

Нават пры бальшавіках, асабліва на пачатку іх панавання, пакуль не пачаўся масавы і злачынны паход супраць «ворагаў народа», было ў іх шэрагах нямала прыхільнікаў беларушчыны. Ды што казаць, сам Сталін прыязна гаварыў менавіта пра беларускі народ, яго мову, культуру, гісторыю.

А цяпер? Пуцін, які нечакана вынырнуў з кадэбэшных нетраў на расійскі трон, які да гэтага, магчыма, і не ведаў, у якім баку Беларусь знаходзіцца, нахабна (іначай не скажаш) заявіў, што беларускага народа... няма. Вось так — няма, і канцы ў ваду. «Мы адзін народ», — сцвярджае ён.

Тое ж самае паўтарае ўсерасійскі «клоўн» Вольфавіч, не адстаюць ад яго многія іншыя насельнікі Думы, сакратар (цяпер ужо былы) міфічнай расійска-беларускай дзяржавы Барадзін, розныя бабурыны, рагозіны, мітрафанавы, патрушавы... І сёння чуюцца галасы ценяў палітычнага мінулага Строева, Селязнёва... Сутнасць іх галашэння: няма беларускага народа, ёсць адзін — расійскі, ёсць адна мова — расійская, у беларусаў жа наогул нічога няма: ні мовы, ні гісторыі, ні культуры, ні дзяржавы... Ну нічагусенькі! Усё ім даў «старэйшы брат» — рускі, безумоўна.

Але хочацца нагадаць жадаючым праглынуць Беларусь, што дзяржаўнасць на нашай зямлі — Полацкае княства (Полацк упершыню згадваецца ў летапісе пад 862 годам), а таксама Тураўскае, Пінскае і іншыя існавалі ўжо тады, калі кіеўскі князь Юрый Далгарукаў — заснавальнік Масквы ў 1147 годзе — яшчэ нават не нарадзіўся. Маскоўскае вялікае княства, як удзельнае, выдзелілася з Уладзіміра-Суздальскага ў першай палове XIII стагоддзя. Вось цытата з БелСЭ: «Руская цэнтралізаваная дзяржава, феад. шматнац. дзяржава, якая ў канцы XV — пачатку XVI стагоддзя аб'яднала вакол Маскоўскага вялікага княства землі і княствы Паўночна-Усходняй Русі». А Вялікае Княства Літоўскае існавала намнога раней — з XIII стагоддзя, Міндоўг прыняў тытул караля ў Навагрудку ў 1253 годзе.

Так што патугі сённяшніх фальсіфікатараў даказаць, што Беларусь — нішто ў гістарычным плане ў параўнанні з Расіяй, смеху вартыя, ілжывыя, яны супярэчаць фактам. Але ж імперскі сверб, прагнае жаданне даказаць законнасць сваіх прэтэнзій на Беларусь і яе народ бяруць верх, вядуць да хлусні.

У такой сітуацыі здзіўляе і абражае пазіцыя сённяшняй расійскай інтэлігенцыі — творчай, навуковай, эканамічнай... Нешта не чуваць, каб хто з яе прадстаўнікоў (акрамя некаторых — Б.Нямцова, І.Хакамады і іх аднадумцаў) сказаў сваё праўдзівае, важнае слова ў абарону гістарычнай справядлівасці. Ад палітыкаў і алігархаў чакаць яго не даводзіцца: яны сталі тымі, каго ў савецкі час называлі, ківаючы на Захад, акуламі імперыялізму. Яны, расійскія, таксама гатовыя цяпер не толькі забіваць адзін аднаго за эканамічную выгаду не толькі ў Расіі, але і за яе межамі, гатовыя рабаваць, абдзіраць цэлыя народы. Хіба можна чакаць ад такіх хаця б слова падтрымкі, нейкіх захадаў у абарону «братоў-беларусаў»?

Зрэшты, яны нам і не патрэбныя — іх падтрымка ды абарона. Нам хопіць аднаго: адчапіцеся ад нас, не лезце ў нашы справы! Мы ў іх самі разбяромся. Разбярыцеся вы ў сваіх. А то яны ў вас вельмі запушчаныя. Ды яны ніколі і не вырашаліся, як належыць. Яшчэ ў пазамінулым стагоддзі Герцэн сказаў, што бяда ўсіх расійскіх урадаў у тым, што ні адзін з іх не давёў да лагічнага завяршэння нават самую добрую задуму. Чаму? Відаць, адказаў Ленін: «Русский человек плохой работник по сравнению с передовыми нациями».

А якая «нацыя» ў Расіі? Хто такія рускія? Пуцін сказаў: вазьмі кожнага другога (ці трэцяга) рускага, добра патры яго — і выявіш у ім татара-мангола. У такім вызначэнні праўда, безумоўна, ёсць. Сотні гадоў панавання арды пакінулі след і ў генах. А.Блок канстатаваў:

*Да, скифы — мы!*
*Да, азиаты — мы, —*
*С раскосыми и жадными очами!*

Гэтая «жадность», нярэдка ў бесчалавечных формах, праяўляецца сотні гадоў. Няма чаго граху таіць: імперскасць — хвароба многіх рускіх. Яны абразліва ставяцца да мовы іншых народаў, гісторыі, культуры, традыцый, звычаяў... Што наглядна відаць і сёння на прыкладзе Беларусі. Не памятаю, каб хоць адзін расійскі інтэлігент заступіўся, падняў голас у абарону той жа беларускай мовы. А што ніхто з палітыкаў гэтага не зрабіў — факт.

І яшчэ адно. Пры Савецкім Саюзе кіраўнікі, навукоўцы, ідэолагі выхваляліся, што ў ім жывуць дружна больш за сто вялікіх і малых народаў. Але ад той вялікай «дружбы», «братэрства» і гэтак далей застаўся пшык пасля снежня 1991 года. А Расія, ачомаўшыся ад шоку пасля распаду СССР, зноў актыўна праяўляе, як і пры царах-імператарах, імперскія памкненні, яе кіраўнікі, палітыкі адкрыта гавораць пра аднаўленне Саюза ў ранейшых межах.

Але час не той. Нарэшце трэба азірнуцца на свае непрыглядныя паводзіны ў мінулым — і пачаць жыць па-людску з усімі суседзямі (і не толькі): як роўны з роўнымі, без прэтэнзій на сваю вялікасць, на сваё вяршэнства — карацей, хопіць качаць свае правы ў іншых суверэнных дзяржавах.

Няўжо так падабаецца, жывучы ў жабрацтве, быць апошняй на планеце ваяўніча-захопніцкай імперыяй? Няўжо не хапае развагі стаць цывілізаванай, культурнай еўрапейскай краінай? На свеце ж не пячорна-каменны век, а XXI. Ад напалеонаўскіх патуг і лопнуць можна.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ,**
**жыхар г.Мінска, пенсіянер.**

ВІНШУЕМ!

# Міколу Дзелянкоўскаму — 80!



Мікалай Іванавіч з унучкай Элай

Так, "Народная Воля" першай шле віншаванні Міколу Іванавічу Дзелянкоўскаму з вялікім юбілеем. Літаральна праз дзень яму споўніцца 80!

М.Дзелянкоўскі нарадзіўся ў мястэчку Скідзель у сям'і селяніна, які меў крыху больш як гектар зямлі. Бацька быў падпольшчыкам, сакратаром гуртка Таварыства беларускай школы, сябрам КПЗБ, сябрам рэўкома, які кіраваў скідзельскім паўстаннем у верасні 1939 года. Загінуў у гітлераўскім канцлагеры "Штутгаф".

Да вайны Мікола скончыў першы клас польскай школы, пры "тых саветах" — два класы беларускай.

Пасля дзесяцігодкі паступіў на аддзяленне журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у рэдакцыі лідскай гарадской газеты "Уперад" — загадчыкам аддзела пісьмаў, адказным сакратаром, намеснікам рэдактара. Адзінаццаць гадоў — да 1973-га — быў уласным карэспандэнтам абласной газеты "Мінская праўда", чатыры гады — рэдактарам БЕЛТА, 15 — адказным сакратаром рэдакцыі часопіса "Родная прырода". Пасля выхаду на пенсію некалькі гадоў працаваў адказным сакратаром часопіса "Беларуская мінуўшчына", намеснікам рэдактара газеты "Рэклама плюс", загадчыкам аддзела "Беларускай лясной газеты".

Мікалай Іванавіч Дзелянкоўскі адзінаццаць гадоў жыў у Нясвіжы — горадзе, які славіцца як другая сталіца Вялікага Княства Літоўскага. Як тут было не пісаць пра багатае мінулае, калі фарміравалася беларуская нацыя, пра яе знакамітых дзеячаў, пра шанаванне і захаванне даўніны!

М.Дзелянкоўскі заўсёды прыхільна ставіўся да літаратуры. Даследаваў творчасць Міхася Васілька, Сяргея Крыўца, Леаніда Казачэўскага, які рана загінуў, іншых літаратараў. На яго рахунку шмат рэцэнзій на творы знакамітых аўтараў. Нарысы пра Янку Брыля, Паўлюка Пранузу, Вячаслава Адамчыка, Івана Пташнікава, Івана Чыгрынава, Ніла Гілевіча, Васіля Быкава і іншых склалі кнігу "Сяброўствы. Знаёмствы. Сустрэчы".

М.Дзелянкоўскі — аўтар "Народнай Волі" з пачатку яе выдання. На старонках нашай газеты змешчана нямала яго вострых матэрыялаў. Вось і сённяшні артыкул "Адчапіцеся!", мяркуем, выкліча ў чытачоў шырокі рэзананс.

Трымайцеся, шаноўны Мікалай Іванавіч! Няхай не падводзіць здароўе. Зычым плёну ў творчасці і яшчэ многіх гадоў жыцця!

**Рэдакцыя газеты "Народная Воля".**



ИЗ ЗАЛА СУДА

# За границу директор «Пинскдрева» бежал с дочерью

***В судебных слушаниях по делу о взрыве на «Пинскдреве» объявлен перерыв.***

Процесс должен возобновиться 1 февраля предположительно с прений.

Пока же допрошены все трое обвиняемых, свидетели и эксперты. Журналисты «Вечернего Бреста» отмечают одну любопытную деталь, которая открылась в ходе судебного заседания.

Оказывается, в приобретении второй линии по производству топливных гранул именно у немецкой фирмы «Munch Edestahl GmbH» была заинтересована дочь генерального директора холдинга Лорана Аринича. В момент проведения тендера на поставку комплекта технологического оборудования она являлась официальным представителем данной фирмы в Беларуси. Тот факт, что дочь гендиректора присутствовала на заседании тендерной комиссии, подтвердил бывший главный инженер холдинга СООО «Пинскдрев-ДСП» В.Шестаков.

Но допросить в судебном заседании дочь Аринича не довелось. По словам гособвинителя Ларисы Караневич, в настоящее время дочь бывшего гендиректора находится за пределами Беларуси.

Как известно, взрыв, в результате которого погибло 14 работников «Пинскдрева», прозвучал на участке по производству топливных гранул. Бывший директор СООО «Пинскдрев-ДСП» Леонид Логвин обвиняется в служебной халатности, бывшие главные инженеры холдинга и завода ДСП Владимир Шестаков и Игорь Логвин — в нарушении правил пожарной безопасности. Логвины вину признают частично, Шестаков — отрицает.

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# *«Расстраляйце мяне!»*



25-гадовы Дзмітрый Канавалаў, асуджаны да вышэйшай меры пакарання за арганізацыю выбуху ў мінскім метро 11 красавіка 2011 г., прызнаў прысуд у адносінах да сябе законным і адмовіўся падаваць прашэнне аб памілаванні.

Пра гэта журналістам паведаміў генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк.

# Зніжаецца ўрадлівасць глеб

Такая сітуацыя назіраецца практычна ва ўсіх раёнах Мінскай вобласці, паколькі пачынаючы з 2003 года ідзе падзенне ўтрымання перагною ў глебах. Але найбольш актуальная даная праблема для Уздзенскага, а таксама Бярэзінскага раёнаў. У 14 раёнах назіраецца падкісленасць глеб.

АФІЦЫЙНА

# Дробязь, а прыемна

***У Беларусі зацверджаны новы бюджэт пражытачнага мінімуму, які будзе дзейнічаць з 1 лютага па 30 красавіка 2012 года.***

БПМ у сярэднім на душу насельніцтва ў гэты перыяд складзе 706.880 рублёў, гэта значыць павысіцца на 23% да нарматыву, які дзейнічае зараз.

Для працаздольнага насельніцтва БПМ устаноўлены ў памеры 764.970 рублёў, для пенсіянераў – 567.510 рублёў, для дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў – 581.240 рублёў, для дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў – 742.830 рублёў, для дзяцей ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў – 759.980, для дзяцей-студэнтаў — 690.340 рублёў.

Адпаведна з лютага на 23% узрастаюць памеры дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей. Павялічваюцца таксама памеры сацыяльных пенсій і надбаўкі, устаноўленыя да пенсій асобных катэгорый пенсіянераў.

ДА ВЕДАМА

Структура бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва ў цэнах снежня 2011 года па накірунках расходаў была наступная:

— прадукты харчавання — 55,8%,
— плата за карыстанне жылым памяшканнем і камунальныя паслугі — 8%,
— прадметы гардэробу — 19,2%,
— тавары бытавога і гаспадарчага прызначэння — 4,8%,
— прадметы першай неабходнасці, санітарыі і лекі — 2,5%,
— бытавыя і транспартныя паслугі — 5%,
— узносы і плацяжы — 4,7%.

ПАМЯЦЬ

# Жыццё і боль Івана Нікітчанкі

***Прайшло больш за год, як не стала выдатнага чалавека, прафесара, члена-карэспандэнта АН Беларусі, кіраўніка сацыяльна-экалагічнага аб'яднання «Цэнтр падтрымкі чарнобыльскіх ініцыятыў» Івана НІКІТЧАНКІ. Сёння аб ім успамінаюць блізкія і знаёмыя…***



Іван Мікалаевіч вельмі любіў сваю сям'ю...

Пра такіх кажуць: «Чалавек-матор». У свае 70 гадоў Іван Нікітчанка, нягледзячы на чарнобыльскія хваробы, мог даць фору некаторым маладым. Энергічны, ініцыятыўны, працавіты. Чалавек, які заўсёды стараўся дапамагчы людзям і якога хто-ніхто так і не пажадаў зразумець. Напрыканцы 2010 года Івана Мікалаевіча не стала. Аўтакатастрофа…

**Лідзія НІКІТЧАНКА, жонка:**

— З Іванам мы пажаніліся, калі я была на 4-м курсе Віцебскага медыцынскага інстытута, а ён вучыўся ў Віцебскім ветэрынарным. На год старэйшы. Пасля вучобы мужа накіравалі працаваць у Магілёўскую вобласць заатэхнікам-ветэрынарам, у хуткім часе перабралася да яго і я, бо і сама родам з Мсціслава. Спачатку жылі ў маёй маці, затым знялі пакой, праз нейкі час далі двухпакаёўку як маладым спецыялістам. Шчыра скажу, цяжкія часы былі. Іван сыходзіў у 6 гадзін раніцы і вяртаўся каля апоўначы. Я ў бальніцы таксама — з ранку да вечара. Але муж быў вельмі здольны чалавек і аднойчы ўбачыў у газеце аб'яву, што ў Маскве ідзе прыём у аспірантуру на дзённае і завочнае аддзяленні. На сямейнай нарадзе вырашылі, што варта ехаць на экзамены. Іван адзін паехаў, праз нейкі час тэлефануе: *«Я ўсё здаў на пяцёркі, але мне прафесар Грудзеў прапаноўвае стацыянар».* Кажу: *«Заставайся».* Безумоўна, гэта было складанае рашэнне, бо на той момант у нас ужо нарадзілася дачка, а ў Маскве трэба было вучыцца тры гады. Я працавала ў раённай бальніцы гінеколагам, даводзілася на кані нават ноччу ў суседнія вёскі ездзіць. І малое дзіця дома. Цяжка, але ж усё перажылі. Іван у Маскве абараніў кандыдацкую дысертацыю, усю практычную работу праводзіў у Кіраўскай вобласці. Там, у Кіраве, і прапанавалі работу. Прыехалі мы туды і бачым: дамы драўляныя, лес вакол, як быццам і жыцця ніякага няма… Не засталіся. Вярнуліся дадому. Тым больш што і прапанова паступіла з навукова-даследчага інстытута жывёлагадоўлі, што знаходзіўся ў Жодзіне. Там Іван і стаў працаваць, там абараніў доктарскую, стаў прафесарам. Быў дырэктарам селекцыйнага цэнтра, затым мы пераехалі ў Мінск, дзе муж, у рэшце рэшт, заняў пасаду намесніка старшыні Дзяржаграпрама БССР.

**Васіль ЯКАВЕНКА, пісьменнік, старшыня сацыяльна-экалагічнага саюза «Чарнобыль»:**

— У 1987-м я пачаў займацца чарнобыльскай праблематыкай. Сам я родам з Гомельскай вобласці, прыязджаў дадому, і мне расказвалі, што людзі ездзяць у зону, вывозяць адтуль камбікорм, назапашанае сена… Дабро ратавалі, але пры гэтым расцягвалі радыяцыю па многіх рэгіёнах краіны. Малако, мяса, якое там прадавалі, усё зашкальвала на дазіметрах. На нейкім мерапрыемстве Саюза пісьменнікаў Беларусі я расказаў пра гэтую жахлівую сітуацыю. Пасля вырашыў сходзіць, каб падзяліцца трывогай, у Дзяржаграпрам БССР. Іван Нікітчанка тады якраз і быў намеснікам старшыні гэтай структуры, займаўся чарнобыльскай тэматыкай. Мы ўпершыню сустрэліся з ім, і, што мяне ўразіла, ён пачаў шчыра расказваць пра Чарнобыль. Казаў, што гэта, безумоўна, вялікая бяда, ён ведае пра радыяцыю… Ніяк не чакаў такога ад чыноўніка. Пасля мы сустракаліся яшчэ некалькі разоў, ён перадаваў мне дакументы. Адчувалася, што чалавек успрымае чарнобыльскую катастрофу як асабістую бяду.



На адной з міжнародных канферэнцый у Брусэлі (побач — праваабаронца Гары Паганяйла).

**Лідзія НІКІТЧАНКА:** — У Івана характар быў такі, што сам голы застанецца, а чалавеку аддасць апошняе. У зоне ён праводзіў тыдні. І дняваў там, і начаваў. Чарнобыль для яго стаў сэнсам усяго жыцця ў тым плане, што муж хоць неяк жадаў дапамагчы людзям. Займаўся селекцыяй жывёл, пасля Чарнобыля адышоў ад гэтай тэматыкі… Не было часу. Калі прыязджаў, шмат чаго расказваў. Перажываў, што не ўсе разумеюць трагедыю, не ўсе ведаюць, якія на самай справе будуць наступствы. Ды і сам нахапаўся там радыеактыўнага цэзію. Нават праз 25 гадоў у яго крыві цэзій перавышаў норму ў дзесяць разоў! Іван змагаўся, каб радыяцыю не расцягнулі па ўсёй Беларусі з мясам, кармамі з зоны, пісаў артыкулы. На яго ціснулі зверху, але са свайго шляху не збочваў. Ён казаў: *«Гэта проста страшна, калі цябе не разумеюць. І не хочуць разумець страшную праблему».* Чарнобыль стаў для мужа сэнсам жыцця. Ён ездзіў у зону, рабіў замеры радыяцыі, абследаваў дзяцей, школьнікаў. Прыязджаў і ледзь не са слязьмі: *«Няма ў нас здаровых дзетак!»* Але ж каго гэтыя даследаванні цікавілі?

**Васіль ЯКАВЕНКА:** — Пасля выбуху на АЭС у рэгіёне пачалася эвакуацыя жывёлы, а Іван Нікітчанка якраз і адказваў у Дзяржаграпраме за жывёлагадоўлю. Ён на свае вочы хацеў бачыць, як адсяляюць з зоны. Гэта была для яго і асабістая жыццёвая бяда. Ён не цярпеў маны, заўсёды быў шчыры і адкрыты. Пры гэтым бачыў, што людзей падманваюць. Расказвалі, што пасля аварыі пад ціскам Масквы Дзяржаграпрам БССР прыняў загад, згодна з якім каля мільёна тон зерня з забруджанай зоны было вывезена і размеркавана па іншых раёнах чыстай зямлі, больш за 1,6 мільёна тон малочнага адгону. Вывозілі «брудную» лясную і травяную муку, косці жывёл запускалі ў вытворчасць. Іван Нікітчанка пра ўсё гэта ведаў, але адзін не мог супрацьстаяць сістэме. Усё прымаў блізка да сэрца, моцна перажываў. Калі я да яго прыходзіў, ён перадаваў мне дакументы па стане ў зоне. З рэальнымі лічбамі і даследаваннямі. Там былі звесткі, куды і што вывозілі з зоны… Казаў мне: *«Захавайце. Прыйдзе час, і гэтую партыйную мафію будуць судзіць. Дакументы нам яшчэ спатрэбяцца».* Дарэчы, заснавальнік і першы дырэктар Інстытута радыебіялогіі НАН Беларусі Яўген Канапля таксама мне даваў дакументы аб стане здароўя чарнобыльскіх дзяцей і насельніцтва. Мне, як пісьменніку, было прасцей нейкім чынам гэта ўсё давесці да ведама грамадскасці. І мой нарыс «Бомба для нашчадкаў» пабачыў свет.

Іван Нікітчанка быў чалавекам-стоікам і вялікім аптымістам у жыцці. І ў сям'і, і ў працы. Нават калі былі няўдачы, казаў, што ўсё будзе добра. А суцяшэнне знаходзіў у напружанай працы. Хоць здароўе было ніякае.

**Лідзія НІКІТЧАНКА:** — У хуткім часе пасля камандзіровак мужа ў зону ў яго з'явіліся праблемы са шчытападобнай залозай і першыя прыкметы прамянёвай хваробы. Паклалі ў бальніцу, таму што ўжо нават хадзіць не мог. Знаходзіўся некалькі месяцаў пад наглядам урачоў, ледзь ачомаўся. Выпісалі, але праз нейкі час далі аб сабе ведаць ужо праблемы з сэрцам. І Івана зноў забралі ў бальніцу з шырокім інфарктам міякарда. Тут паўплывалі і наступствы Чарнобыля, і праблемы на працы. Мы як маглі падтрымлівалі яго, прайшло тыдні тры, перавялі з рэанімацыі ў палату… Неяк у нядзелю едзем з сынам на дачу, кажу: *«Давай заедзем да бацькі ў бальніцу».* — *«Ты ж учора ў яго была».* — *«Не ведаю, хочацца заехаць...»* Заходзім у палату, там адзін Іван. І я бачу, што ён памірае. Пакрыўся халодным потам, шэпча: *«Мне дрэнна».* Я хутчэй да ўрачоў, мужа зноў у рэанімацыю. Паўторны інфаркт. Нават і не ведаю, што было б, калі б не заехалі… Пасля гэтага мужа накіравалі на рэабілітацыю ў санаторый «Крыніца». Мы вучылі яго ў літаральным сэнсе хадзіць, бо мышцы за час знаходжання ў бальніцы проста атрафіраваліся. У дзень рабілі па 5—10 крокаў… Івану тады і пяцідзесяці гадоў не было. Далі групу, праз нейкі час ён сышоў з працы.

**Васіль ЯКАВЕНКА:** — Пасля камандзіровак у зону ён вяртаўся вельмі стомленым. Нават не фізічна, а ад уражанняў. Чарнобыль — гэта былі яго боль і трагедыя. Таму было зусім лагічна, што ён стварыў сацыяльна-экалагічнае аб'яднанне «Цэнтр падтрымкі чарнобыльскіх ініцыятыў». Дамагаўся, каб на тэрыторыі Беларусі быў маніторынг па радыяцыйнай бяспецы, сістэмная работа ў Беларусі, Расіі, Украіне. У рэспубліцы гэтым, па сутнасці, ніхто не займаецца, і мы па сённяшні дзень дакладна не ведаем, як распаўзлася па зямлі радыяцыя. Іван Нікітчанка валодаў статыстыкай па захворванні дзяцей ад наступстваў Чарнобыля, пісаў аб гэтым, хацеў, каб краіна не хавала праблему, а глядзела праўдзе ў вочы. Зрэшты, чыноўнікаў гэта не цікавіла. Мы разам звярталіся ў многія ўладныя структуры, білі ў набат, аднак у адказ — цішыня. Ці проста адпіскі. Іван Нікітчанка заўсёды спадзяваўся, што чарнобыльская трагедыя будзе пераасэнсавана. І выступаў катэгарычна супраць будаўніцтва атамнай электрастанцыі ў Беларусі. Казаў, што трэба не АЭС будаваць, а лепш рухаць наперад энергазберагаючыя тэхналогіі... Ён вельмі любіў Беларусь, хоць і родам з суседняй Браншчыны. Не ўсе беларусы так любяць сваю краіну.



1961 г. Пачынаючы ветэрынар-заатэхнік Іван Нікітчанка.

**Тацццяна НОВІКАВА, адказны сакратар грамадскай экалагічнай экспертызы праекта беларускай АЭС, сябра ГА «Экадом»:**

— Іван Нікітчанка быў адным з нямногіх спецыялістаў у Беларусі, хто вывучаў уздзеянне наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС на здароўе людзей і навакольнае асяроддзе. У апошнія гады змагаўся за тое, каб беларускія ўлады дазволілі яму атрымаць фінансаванне і працягваць свае даследаванні. Пісаў праект за праектам, падаваў заяўкі, накіроўваў лісты кіраўніку краіны, ва ўрад… За апошнія тры гады яму ўдалося правесці толькі адно даследаванне, у якім прынялі ўдзел 2 тысячы чалавек з усёй Беларусі. Вынікі аказаліся несуцяшальныя.

Мы запрасілі Івана Мікалаевіча, як члена-карэспандэнта Акадэміі навук Беларусі, узначаліць Грамадскую экалагічную экспертызу праекта беларускай АЭС, і ён вельмі адказна выконваў гэтую місію. Быў чалавекам незвычайнай дабрыні. Згубіў сваё здароўе падчас ліквідацыі чарнобыльскіх наступстваў, але, нягледзячы на гэта, ніколі не адмаўляў у прафесійнай дапамозе. Я, напрыклад, магла патэлефанаваць Івану Мікалаевічу, каб параіцца, у любы час і ніколі не чула адмовы. Яго меркаванне заўсёды было вызначаным і не змянялася пад уплывам палітычных фактараў. Ён выступаў супраць будаўніцтва ў Беларусі АЭС, агучваў тыя факты, якія многія імкнуцца замаўчаць…

**Лідзія НІКІТЧАНКА:** — Іван вельмі шмат працаваў. Ён бы не жыў, калі б не працаваў. Але хваробы пастаянна нагадвалі аб сабе. Рабілі кропельніцы, падчас аднаго абследавання знайшлі тромб брушной аорты. Амаль дзесяць сантыметраў! Ізноў была аперацыя. Але прайшоў час — і ён па-ранейшаму ўзяўся за працу. Я яму колькі разоў казала: *«Ды паберажы ты здароўе, навошта табе тыя паездкі?»* Адказваў: *«Як я магу жыць спакойна, калі бачу патухлыя ад хвароб дзіцячыя вочы?»* У Гомельскай вобласці няма, напэўна, ніводнай вёскі, дзе муж не пабываў.

**Аляксандр ВАЛЧАНІН, кіраўнік зарэгістраванага ва Украіне грамадскага аб'яднання «Саюз Чарнобыль—Беларусь»:**

— З Іванам Нікітчанкам мы нярэдка разам прымалі ўдзел у розных міжнародных канферэнцыях, а ў апошні час тэлефанавалі адзін аднаму амаль праз дзень. Было шмат агульных пытанняў, якія датычыліся праблем удзельнікаў і інвалідаў ЧАЭС. З гэтым чалавекам было вельмі цікава вырашаць пытанні, бо ён — чалавек з энцыклапедычнымі ведамі і па навуцы, і па сацыяльнай абароне. З вялізнымі ведамі! І шчыра вам скажу — без яго нам цяжка.

**Лідзія НІКІТЧАНКА:** — Іван быў вельмі добры сем'янін, моцна любіў дзяцей. Дачка Ала, дарэчы, і пайшла па слядах бацькі, скончыла ў Маскве сельскагаспадарчы інстытут.

19 лістапада 2010 года муж сабраўся на сваёй машыне на дачу. Здаецца, трэба было памяняць колы. За дзень да гэтага прынёс і паказаў аналіз крыві. Аналіз быў не вельмі, кажу: «Давай лепш у бальніцу паедзем, застанься дома. Няхай кропельніцы паставяць, пра здароўе трэба падумаць». — «Праз тыдзень паеду ў бальніцу», — адказвае. У той дзень я быццам адчувала дрэннае… Пасля патэлефанавалі, паведамілі, што муж разбіўся. Нейкім чынам выехаў на сустрэчную паласу і сутыкнуўся з МАЗам. Думаю, што яму стала дрэнна. Магчыма, прыхапіла сэрца ці закруцілася галава. Калі пасля аварыі мужа прывезлі ў бальніцу, ён яшчэ жыў. Памёр у тры гадзіны ночы. А ў яго было яшчэ столькі планаў…

**Алесь СІВЫ.**
**Фота з сямейнага архіва сям'і Нікітчанка.**



Разам з жонкай Лідзіяй у маладыя гады.

СОСЕДИ

# *Белорусы скупают в Литве заброшенное жилье*

***Специалисты по рынку недвижимости отмечают, что литовскими домами и квартирами стали активно интересоваться белорусы.***

Деревня Натишкяй (Биржайский район) — одна из самых отдаленных деревень района. Многоквартирные дома, построенные в советское время, здесь заброшены, превращаются в развалины. Люди, которые в них жили, уехали в более крупные города. Остались лишь фермеры и самые терпеливые жители. Однако покинутые квартиры, которые еще были в неплохом состоянии, без хозяев не остались. Их покупают белорусы. По словам местных жителей, они расплачиваются за жилье, фотографируют его и уезжают.

По словам местных жителей, земля белорусов не интересует.

*«Они находят объявление в интернете. Покупают через каких-то посредников. Им неважно, где находится это жилье. Главное — купить подешевле, чтобы, скажем, легче получать визы»,* — рассказала порталу DELFI староста Вабальнинкаса **Лилия Вайтекунене.**

